№ 162 (514)

Аўторак, 8 верасня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля



**Вы падпісаліся на "Народную волю"? Мы — з Вамі!**

Славутыя падзеі

## 1514 год: бітва на Крапіўне. Пад Оршай...

Сёння — гадавіна перамогі беларускага войска ў бітве пад Оршай, што адбылася 8 верасня 1514 г. Гэта бітва ўвайшла ў гісторыю сусветнай ваеннай навукі як прыклад удалай барацьбы з колькасна перавышаючым ворагам, сведчанне важнай ролі ў баі вайсковага майстэрства і таленту.

Падзея належыць да пачатку XVI стагоддзя — перыяду шматлікіх войн паміж Вялікім княствам Літоўскім і Масковіяй, што выступала ў якасці агрэсара. Чарговая вайна пачалася ў 1512 г. Пасля страты Смаленска і стварэння моцнай прарасійскай кааліцыі ў Цэнтральнай Еўропе (1514 г.) наша краіна апынулася ў небяспечным становішчы. Маскоўцы занялі Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна, выйшлі да Беразіны.

Адпор захопнікам узначаліў князь Канстанцін Астрожскі, выдатны палкаводзец, дзяржаўны дзеяч беларускага сярэднявечча. Адбылася бітва на Крапіўне. Харугвы княства выступілі супраць 80-тысячнага маскоўскага войска на чале з ваяводамі Чалядніным і Булгакавым-Голіцам. У К.Астрожскага было 16 тысяч апалчэнцаў і прыкладна столькі ж польскай і нямецкай дапамогі.

Гетман наладзіў пераправу цераз раку і першы напаў на ваявод; тыя нават не здолелі дапамагчы адзін аднаму. Прытворным адступленнем Астрожскага маскоўцы былі заманены пад агонь артылерыі. Ад 30 да 40 тысяч воінаў было забіта, у палон трапіла не менш за 4 тысячы, у тым ліку ваяводы. Гарматы, абоз, баявыя сцягі — усё засталося пераможцу.

Бітва змяніла ход вайны. Руская мусілі пакінуць усе занятыя гарады, акрамя Смаленска. Перастала існаваць і кааліцыя супраць княства. У 1552 г. адбылося заключэнне перамір'я з Масквой: наша краіна захавала ўсе землі, акрамя Смаленшчыны.

Бітва пад Оршай 1514 г. — славутая падзея для беларусаў, яна добра адлюстравана ў народным фальклоры, выяўленчым мастацтве.

**Аляксандр АДЛІВАНЧЫК.**

Стоп-кадр


*Калгасныя даяркі.*

Незалежная экспертыза

## Якое жыццё, такое і жніво

З тэрмінамі правядзення чарговага фестывалю-ярмаркі "Дажынкі-98" яго арганізатары ўсё ж паспяшылі. Ва ўсялякім разе, думаю, не памылюся калі скажу, што Віцебшчына не здолее поўнасцю завяршыць уборку зерневых і зернебабовых у тэрмін да 18 верасня. Нават калі ўсталюецца добрае надвор'е, на палетках застануцца няўбранымі тысячы маленькіх участкаў вяскоўцаў. Нягледзячы на ўведзены А.Лукашэнкам так званы "асобы рэжым функцыяніравання" вобласць да 1 верасня і блізка не закончыла жніво, як было загадана, бо патрабуецца малаціць яшчэ на трэцяй частцы плошчаў.

У якасці апраўдання правалу ўлады будуць называць дрэнныя ўмовы надвор'я. Але ж і летась, калі было ідэальна сухое і гарачае надвор'е, у нашым рэгіёне работы вяліся ў верасні. Вобласць толькі ў сярэдзіне кастрычніка, а не да патрабуемага 7 верасня сумела выканаць дзяржзаказ і паставіць 289 тысяч тон зерня пры ўраджайнасці 22,4 цэнтнера з гектара (план быў 25). Сёлета нацэльваліся атрымаць ужо 26 цэнтнераў, а маем на канец мінулага тыдня толькі 19,4 цэнтнера з гектара.

Хлебная ніва Віцебшчыны сёлета складае 462 тысячы гектараў, амаль такая, як была летась. Дык вось тады ўжо восенню ўбіралі цэлых 120 тысяч гектараў, з якіх палову прыйшлося спісаць. Не паўтарыўся б і зараз гэты сумны факт, бо колькі палегла хлябоў! Шмат зарасло пустазеллем... Па 16—17 цэнтнераў збіраюць у гаспадарках сямі раёнаў, кожным трэцім у вобласці. Сустракаюцца гаспадаркі, у прыватнасці, калгасы імя Кірава Гарадоцкага, "25-ы партз'езд" Пастаўскага, "Прамень" Полацкага раёнаў, якія колькі высеялі ў глебу, амаль столькі цяпер і возьмуць, бо ўраджайнасць у межах 6—9 цэнтнераў з гектара. Ёсць такія калгасы, што са сваімі тэмпамі ўборкі будуць весці абмалот і ў кастрычніку. Цікава, ці ўспомняць пра такіх небарак у тым жа Нясвіжы на чарговым шоу-паказусе?

Пра ўсё, здаецца, пратрубілі за месяц, асвятляючы ход жніва, дзяржаўныя сродкі інфармацыі. Толькі ніводная газета не напісала, не дала ў эфір словы абурэння людзей проста ганебнымі адносінамі да хлебароба. "З нас толькі патрабуюць і патрабуюць укалваць ад цямна да цямна, — з сумам гаварыў мне знаёмы механізатар з Пастаўшчыны, — а заплацілі з горам папалам толькі за працу на пасяўной. Купіць закурыць ужо няма за што, як і няма грошай адправіць дзяцей у школу..." Праўда, потым у хлопца настрой палепшыўся, бо да прыезду прэзідэнта на Віцебшчыну ў гэтым, а таксама Браслаўскім і Шаркаўшчынскім раёнах поўнасцю разлічыліся з вяскоўцамі за чэрвень, хоць трэба было выплаціць грошы і за ліпень.

Толькі з людзьмі ў нас лічацца больш на словах. Не сакрэт, што нават там, дзе мелі магчымасць, грошы затрымалі, каб купіць паліва і пазбегнуць непажаданых масавых п'янак у час пільніцы. Без настрою любая справа дрэнна робіцца. А калі апошнім часам было хораша на душы ў сельскага працаўніка, для якога праца страціла ўсялякі сэнс? Як яму зразумець, чаму ў час вялікага збожжа цана на чорны хлеб паднялася яшчэ на 400 рублёў, падскочылі ў кошце і белабулачныя вырабы? Да і ўсё астатняе даражэе літаральна на вачах.

Горш таго, што нават тыя нешматлікія калектывы, хто ўжо справіўся з галоўным экзаменам на ніве, не адчуваюць радасці і задавальнення. Выручка ад атрыманай прадукцыі нават у перадавікоў жніва не дазваляе ім з аптымізмам глядзець у будучае. "Фінансавы стан самых лепшых гаспадарак пасля продажу хлеба, — сказаў начальнік Докшыцкага райсельгасхарчу І.Палачанін, — катастрафічны. Крэдыты, якія набралі, вярнуць не здолеем. Нават пры высокіх ураджаях гаспадаркі і іх працаўнікі жывуць бедна, атрымліваюць малыя заробкі". А гэты ж раён — пераможца абласнога і прызёр мінулагодняга рэспубліканскага спаборніцтва, лідзіруе ён у вобласці і сёлета. Што ж тады казаць пра астатніх?

Прычыны і сёлетняга правалу на жніве ляжаць на паверхні. Гэта па-ранейшаму камандна-бюракратычны стыль кіравання сельскай гаспадаркай, ігнараванне наспеўшых рынкавых рэформ і адносіны ўлад да вяскоўцаў як да людзей другога гатунку. Пакуль у нас будуць разгортвацца "бітвы за ўраджай", а не наладжвацца на вёсцы нармальнае жыццё і праца, нічога добрага нам усім чакаць нельга.

**Уладзімір ШЫК.**

Протест

## Забастовка

Если быть точным, то в первый день занятий забастовали родители семиклассников. Возмутило, что их дети шестой год кряду станут заниматься во вторую смену. Раньше в школе, словно колоду карт, тасовали классы (читайте: чередовали): кто в предыдущий год учился в первую смену, в нынешнем — станет посещать школу во вторую смену. И наоборот.

А с нынешними семиклассниками из года в год обходились одинаково: переводили всякий раз в очередной класс, оставляя полюбившихся невозмутимых школяров на ставшей привычной второй смене.

Объявившие протест родители, казалось, выдвигали веские причины:

*"...Наша боль за детей в следующем: многие страдают хроническими заболеваниями органов зрения, сердечно-сосудистой системы и другими. В вечернее время, а это в основном темное время суток, согласно статистике, резко ухудшается криминогенная обстановка на улицах Жодино. Были случаи ограбления и избиения детей во время возвращения из школы.*

*Дети со страхом ждут окончания занятий, так как родители работают и не имеют возможности встретить своих детей, и так происходило в течение всех этих лет".*

Раньше родители не поднимали этот вопрос, зная и понимая трудности школы. В нынешнем же году, когда вышли новые санитарные нормы, согласно которым 1—5-е классы, занимавшиеся раньше в первую смену, снова станут... учиться в утреннюю смену.

И родители семиклассников-жодинцев вовсе не против этого "санитарного" нововведения, пусть так и будет: хоть чужие малыши перестанут терять зрение в младших классах. А как быть их семиклассникам? Еще столько же лет (раз поговаривают о двенадцатилетке!) им учиться во вторую смену?

В знак солидарности с бастующими (или проще: протестующими) родителями перестали посещать школу их взрослеющие чада. Особенно после того, как директор школы Янина Ильютик на требования родителей не отреагировала как следует, а Александр Новик из управления образования Минского облисполкома и вовсе отнесся с подчеркнутым равнодушием:

— Пропускают школу целыми классами? — переспросил Александр Степанович. — Ну и пусть отлынивают. Прогульщики были во все времена...

На конкретный родительский вопрос Жодинское городское управление образования ответило откровенной отпиской. Короче говоря, на местах всюду, куда ни обращались встревоженные и обеспокоенные родители с волнующей их проблемой: почему нет заботы о детях, их здоровье, или они уже "запрограммированные" изгои общества, — от них отмахивались, как от назойливых мух.

И вот уже коллективное письмо родителей направлено в Администрацию президента Республики Беларусь, министру здравоохранения, заведующему санитарно-эпидемиологической службой Минской области, в Государственный комитет по делам молодежи... И свои требования родительский "забастовочный комитет" изложил более чем конкретно:

*"По решению собрания родителей 7-х классов наши дети не будут посещать занятия со 2-го сентября 1998 г. до решения вопроса об обучении их в первую смену".*

Если в начале организованной акции протеста под письмом-обращением стояли 52 подписи родителей, то к моменту принятия коллективного решения — 97. Каждый из родителей посчитал долгом высказать свое собственное отношение к происходящему.

Неужели неразрешимой была стихийно возникшая "забастовочная" проблема? Неужели директор с завучем, педколлектив школы не могли ее решить без обращений в городское и областное управления образования?

Но послушаем мнение родителей:

*"Мы пытались решить этот вопрос с местными органами власти, руководством СШ №9 в лице Янины Леонтьевны Ильютик. В результате агрессивно настроенный директор школы не смогла нормально поговорить, только кричала, заявляла, что не видит выхода из сложившегося положения, за исключением того и в том случае, если будет документ за подписью президента страны А.Г.Лукашенко..."*

*"Неужели для удовлетворения амбиций директора СШ №9 нужно столько волокиты? И может ли такой человек вообще воспитывать будущее нации, государства?"* — справедливо спрашивают родители.

Невольно задумаешься над ситуацией, корнями конфликта: так ли уж тяжело было перекроить школьное расписание, поменять смены для трех "вечно второсменных седьмых" классов?

Разве семиклассники не заслуживали к себе внимания или их действительно зачислили в изгои? И как изменить "командирскую" позицию женщины-директора: решение, мол, принято и пересматривать его не имеет права никто, кроме... Словом, приказы не обсуждаются.

Даже в армии, поверьте, они еще как обсуждаются и осуждаются. Правда, после непременного правила: после того, как будут выполнены.

Приказ: приступить к занятиям! — семиклассники выполнили 1 сентября. А назавтра запротестовали уже вместе с родителями: сколько же раз можно так начинать учебный год для одних и тех же детей? И все в одну и ту же вторую смену... Есть над чем подумать и тем, кто составляет для школ инструкции-рекомендации.

**Виктор СВИРКО.**

## Банкіры параўноўваюць цяперашнюю фінансавую абстаноўку ў краіне з дэпрэсіяй 30-х гадоў у ЗША

Прадстаўнікі беларускіх камерцыйных банкаў, да якіх звярнуўся за каментарыем карэспандэнт БелаПАН, параўналі цяперашнюю фінансавую абстаноўку ў краіне з дэпрэсіяй 30-х гадоў у ЗША. Па іх словах, Беларусь пачала пажынаць плады інтэграцыі з Расіяй, чый фінансавы крызіс стаў штуршком да абвалу беларускай грашовай адзінкі. Так, бліжэйшым часам чакаецца банкруцтва некалькіх банкаў, якія мелі буйныя ўкладанні ў расійскія дзяржаўныя кароткатэрміновыя абавязацельствы. Пагоршыцца сітуацыя з экспартам: расійскія рублі, атрыманыя за рэалізаваныя беларускія тавары, цяпер практычна неліквідныя. Вельмі верагодны энергетычны крызіс, у прыватнасці, сур'ёзныя перабоі з бензінам. Немалую ролю ў стварэнні цяперашняй сітуацыі, на думку банкаўскіх экспертаў, адыгралі ўнутраныя прычыны: забароны і абмежаванні пры правядзенні аперацый на пазабіржавым рынку, якія ператварылі беларускі рубель у замкнутую валюту, а таксама буйная крэдытная эмісія, якую, па некаторых звестках, нядаўна ажыццявіў Нацыянальны банк. Адным з магчымых наступстваў крызісу эксперты назвалі адстаўку старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

Чулі?

## "Балтыйскі гром" набліжаецца да Мінска

Пад такой гучнай назвай у Мінску фінішыруе балта-беларускі музычны тур. 19 верасня ў сталічным кінатэатры "Партызан" адбудзецца 10-гадзіннае шоу рок-гуртоў з Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны.

Музычнае турнэ распачнецца 11 верасня ў прыбалтыйскіх краінах. На "Балтыйскі гром" у Мінск з'едуцца трынаццаць гуртоў, якія ў сваёй музыцы спалучаюць пераважна цяжкі рок і фальклор. Сярод іх будуць украінскі "Sleeping Flowers", латвійскі "Skyforger", эстонскі "Tharaphita", літоўскія "Poccolus", "Zpoan vtenz", "Dissimulation", беларускія "Gods tower", "Znich", "Gateward".

Сюрпрызам стане ўдзел у фестывалі рыцарскіх ордэнаў. Яны выступяць з паказальнымі баямі ў сярэдневяковым касцюміраваным шоу.

Дарэчы, прыхільнікі "метала" змогуць набыць на імпрэзе альбомы любімых і ўпадабаных новых гуртоў.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

Здарэнні

## На хлопчыка напаў... шалёны кот

Якіх толькі неверагодных гісторый не сустракаецца ў жыцці з братамі нашымі меншымі, дамашнімі жывёламі. Вось і ў Наваполацку здарыліся дзве, дзе галоўнымі дзеючымі асобамі былі каты. У першым выпадку кіска невядома якім чынам залезла на дрэва на вышыню пяціпавярховага дома, а назад спусціцца сама не змагла. Бедная жывёліна толькі жаласліва мяўкала на працягу чатырох сутак, пакуль не прыйшлі на дапамогу пажарныя і не вярнулі коціка на зямлю. Гэты сюжэт жыва абмяркоўваў увесь горад, бо яго паказалі ў праграме навін мясцовага кабельнага тэлебачання.

Хапіла размоў і пра другі выпадак, калі ў адным з мікрараёнаў на вучня 7-га класа напаў і моцна пакусаў бадзялы кот. Добра, што бацькі хлопчыка адразу звярнуліся да ўрачоў і тым самым выратавалі яго ад смерці. У пушыстага крыўдзіцеля была выяўлена такая страшная хвароба, як шаленства. Гарадскія ўлады запатрабавалі ад усіх жыхароў раёна здарэння прывесці сваіх кісак у цэнтр гігіены і эпідэміялогіі для прывівак, увялі пэўны рэжым санітарнага кантролю ў адносінах да іншых дамашніх жывёлін.

**Уладзімір ШЫК.**

SOS!

## Как вылечить Катю по "специальному назначению"?

"Длительное лечение по специальному назначению". Такой гриф ставят врачи на рецепты для 8-летней Кати. Диагноз, поставленный девочке, очень серьезен и требует длительного и дорогостоящего лечения.

Ребенку необходим "Финлепсин" — противосудорожное средство, которое принимается длительно и обязательно без прерывания курса.

Безусловно, диагноз дает право на бесплатное приобретение лекарств. Тем более что "Финлепсин" — средство весьма не дешевое. Если в июле 50 таблеток стоили 238 тысяч рулей, то в конце августа — 580 тысяч. А в месяц девочке требуется 60—62 таблетки.

Можно облегченно вздохнуть и сказать: "Как хорошо, что государство позаботилось о бедной крошке". Но в том-то и дело, что рождественской сказки не получается. По телефону 069 справочно-информационная служба аптечного управления отвечает: "Льготного "Финлепсина" нет". А нельготный? "А нельготный (то есть за полную стоимость — напомню, за 580.000 рублей!) есть". На вопрос "почему?" женский голос в телефоне отвечает: "Нет поступлений".

Может быть, какое-нибудь ведомство объяснит больной девочке и ее родителям, какими путями лекарства поступают в аптеки, почему нельзя отпустить нельготный "Финлепсин" по "бесплатному" рецепту, и нельзя ли все-таки закупить больше именно тех лекарств, которые можно приобрести по бесплатному рецепту для "длительного лечения по специальному назначению"?

**Александра БАТУРИНА.**

Ну, заяц...

## Пачалася аперацыя "Нелегал"

Пагранічнымі войскамі сумесна з органамі КДБ і МУС Беларусі пачата правядзенне спецыяльнай аперацыі "Нелегал-98".

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, ужо на працягу першых сутак было затрымана 528 грамадзян краін Азіі і Афрыкі, якія незаконна знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. З іх толькі ў Мінску — 346 чалавек.

Акрамя таго, удалося затрымаць чатырох арганізатараў каналаў незаконнай міграцыі праз тэрыторыю нашай краіны. Спынена таксама шэсць спроб парушэння дзяржаўнай граніцы грамадзянамі далёкага замежжа.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БелТА.**

## Памочнік прэзідэнта — парашутыст №1?

4 верасня ў горадзе Врзар (Харватыя) адкрыўся XXIV чэмпіянат свету па парашутным спорце, які працягнецца да 12 верасня. У спаборніцтвах ўдзельнічае зборная каманда Беларусі, якую ўзначальвае памочнік прэзідэнта па асобых даручэннях, дырэктар дэпартамента гуманітарнай дапамогі пры прэзідэнце краіны Віктар Кучынскі. Па словах прэзідэнта Нацыянальнага авіяспортклуба імя Сяргея Грыцаўца Мікалая Мачанскага, В.Кучынскі ў Нацыянальным авіяспортклубе "асабіста ажыццявіў больш за 60 скачкоў з парашутам". У склад каманды, якую трэніруе пяцікратная чэмпіёнка свету Алена Ярмальчук, уваходзяць заслужаныя майстры спорту Алег Лях, Юрый Атчанашка, Дзмітрый Хокін, Мікалай Чайко і іншыя.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

Падзея

## У Беларусі здабыта 100-мільённая тона нафты

4 верасня ў Беларусі здабыта 100-мільённая тона нафты (60 працэнтаў запасаў пачаткова разведанай нафты) і 9,7 мільярда кубаметраў спадарожнага газу. За 30 з невялікім гадоў існавання ВА "Беларуснафта" адкрыта 61 месцараджэнне нафты; 51 з іх уведзена ў эксплуатацыю; прабурана звыш 18 мільёнаў метраў пароды; пабудавана 1320 свідравін.

Па ацэнках спецыялістаў, пік здабычы беларускай нафты (каля 8 мільёнаў тон) прыпаў на 70-я гады. У апошнія гады ВА "Беларуснафта" штогод здабывае каля 2 мільёнаў тон нафты, забяспечваючы 20 працэнтаў патрэбы рэспублікі. Здабыча беларускай нафты за восем месяцаў 1998 года склала 1.267.378 тон, ці 100,9 працэнта да аналагічнага перыяду 1997 года.

Здабыча спадарожнага нафтавага газу ў студзені-жніўні дасягнула 167.599 тысяч кубаметраў (102,5 працэнта да студзеня-жніўня 1997 года). Астаткавыя разведаныя запасы нафты ацэньваюцца ў 71,7 мільёна тон, спадарожнага газу — 10,4 мільярда кубаметраў. Па разліках экспертаў, для падтрымання стабільнай здабычы ўласнай нафты ў гэтую галіну штогадова неабходна ўкладваць 30—35 мільёнаў долараў ЗША.

Асноўныя мерапрыемствы ў сувязі са здабычай 100-мільённай тоны беларускай нафты пройдуць у горадзе Рэчыца Гомельскай вобласці — галоўнага нафтагазаноснага рэгіёна краіны. Удзел у іх прыме прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

Кто — кого?

## ОМОНовцы наводили порядок на Пинском рынке...

Центральный колхозный рынок в Пинске на время превратился в своеобразную арену действий ОМОНа. По словам свидетелей, около 10 часов утра все три входа на рынок были перекрыты милицейскими машинами. Затем несколько десятков ОМОНовцев и простых милиционеров бросились ловить валютчиков и иностранных граждан, торгующих на рынке. Всех, кто не успел убежать, отвели к продуктовому магазину, выстроили в шеренгу и после поверхностного обыска отвезли в участок. Там на задержанных составили протоколы, сняли всех на видеопленку и отпустили. Слухи о том, что у задержанных конфисковали все наличные деньги, а также незаконно обшарили их личные автомобили, подтвердить не удалось, так как сами потерпевшие были настолько напуганы происшедшим, что отказались от всяких комментариев.

Как сообщили в Пинском ГОВД, операция была заранее спланирована и носила название "Нелегал". Операция была направлена прежде всего на борьбу с лицами, занимающимися незаконной куплей-продажей иностранной валюты, а также иностранными гражданами, прежде всего вьетнамцами, многие из которых проживают и торгуют в Пинске без надлежащих разрешений. Сотрудник ГОВД отметил также, что такие рейды станут теперь постоянными.

Между тем на Пинском центральном колхозном рынке нет ни одного обменного пункта. А в расчетно-кассовом центре БелКомБанка, расположенном неподалеку, курс покупки, к примеру, американского доллара составляет 60 тысяч белорусских рублей против 100 и более тысяч на "черном рынке". Купить валюту в банке невозможно. Практически все торгующие осуществляют свои валютные операции на "черном рынке", а между тем, по их мнению, выход из создавшегося положения давно известен — создание нормальных обменных пунктов с реальным курсом покупки и продажи, и тогда с валютчиками не надо будет бороться силами ОМОНа — они просто исчезнут, не выдержав цивилизованной конкуренции.

**Алексей ДИКОВИЦКИЙ.**

Пишите!

## Я хочу услышать ваши отзывы

Уважаемые читатели "Народной воли"!

Редакция газеты закончила публикацию первой книги — "Бытие" — моего стихотворного пересказа для детей Священного Писания.

Я полагаю, что будут напечатаны уже готовые главы и следующей книги.

Но прежде чем продолжить свою работу, мне хотелось бы услышать Ваши отзывы о тех публикациях, с которыми Вы познакомились. Если эта книга затронула Ваши души и сердца, пишите мне, пожалуйста, по адресу: 220096, г.Минск, ул.Голодеда, 17, к.4, кв.27, А.С.Скрипкину или по тел. 240-66-09.

**А.СКРИПКИН.**

Творчество читателей

## Осел и соловей

Басня

*Осел увидел Соловья:*
*"Совсем невзрачная пичужка.*
*И не подымет ни куля...*
*Пустая, глупая игрушка".*

*Вот так оценивая всех,*
*кто Родину талантом прославляет,*
*Ослы приветствуют лишь тех,*
*Кто куль пудовый подымает.*

**Борис БЕЗЗУБОВ.**

